ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S

Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 362 Год выд. XXXVIII | Верасень 1989

## ЗЬ ДЗЬВЮХ ТУРМАЎ У АДНУ

**(Да 50-годзьдзя «ўзьяднаньня» БССР)**

У замежным друку апошнімі месяцамі шмат пісалася пра пакт Рыбэнтропа-Молатава ды сакрэтныя пратаколы да яго, што былі падпісаныя 50 гадоў таму напярэдадні Другое сусьветнае вайны. Вайна гэтая, як ведама, паперакройвала дзяржаўныя межы Эўропы. Грунтоўным чынам закранула гэтае перакройваньне і Беларусь. Для Беларусі гэта было, можна сказаць, ейнае трэйцяе тэрытарыяльнае «ўзбуйненьне» — пасьля двух папярэдніх 1924-га й 1926-га гадоў. Рэспубліка наступова ўваходзіла ў свой этнаграфічны прастор.

Працэс задзіночаньня Беларусі быў складаны, каштаваў вялікіх ахвяраў усім народам, што былі ў яго ўцягнутыя і нельга сказаць, што супярэчкі вакол гэтага пытаньня скончыліся. Дагэтуль моцным рэхам гучаць у іх падзеі 1939-45 гадоў.

Дзень 17 верасьня 1939 году — нядзеля якраз — для шмат каго ў тагачаснай Заходняй Беларусі быў падвойным сьвятам, для іншых-жа — паглыбленьнем трагедыі. Адчуваньне сьвяточнасьці ішло ў масы Беларусаў ад пакутаў мінулага, ад перасьледаў, зьдзеку, розных забаронаў з боку польскіх уладаў; у шмат каго з Палякоў настрой таксама падбадзёрыўся быў крыху ў надзеі, што Савецкі Саюз дапаможа абараніць ад Немцаў незалежнасьць польскай дзяржавы.

У кожнага пасвойму загараліся спадзяваньні на лепшае, бо ніхто ня ведаў і не падазраваў, якім жудасным выявіцца сталінскі рэжым для ўсіх жыхароў вызваленае» Заходняе Беларусі.

17-га верасьня ў Берасьце ўвайшлі гітлерскія жаўнеры, а з усходу насупраць ім рушылі сталінскія чырвонаармейцы. Задзіночаньне тэрытарыяльна Беларусы ўвайшлі ў новую фазу гісторыі, трагічную, зь безьлічай ахвяраў, сымбалем якое сёньня сталіся Курапаты і Хатынь.

Ацэнка падзеяў верасьня 1939 году — справа няпростая. Гітлер нападам на Польшчу пагвалтаваў права польскага народу на мірнае жыцьцё і на сваю дзяржаву. Але гледзішча беларускае на 1939 год розьніцца ад гледзішча польскага. Трагедыя тэрытарыяльнага падзелу Беларусі пачалася раней за трагедыю падзелу польскае дзяржавы. Беларусь была раскроеная напалам у сакавіку 1921 году Рыскім трактатам, і пытаньня легальнасьці ды маральнасьці таго, што здарылася ў верасьні 1939 году, нельга разглядаць адарвана ад таго, што адбылося ў Рызе ў сакавіку 1921 году ды што выраблялі польскія ўлады пасьля ў Заходняй Беларусі.

Рыскі трактат, падзел Беларусі на ўсходнюю й заходнюю, быў аднадушна асуджаны ўсімі бяз вынятку беларускімі партыямі й нацыянальна-культурнымі дзеячамі. Ад імя ўсіх іх ці не найлепш выказаўся Якуб Колас у яго-ным славутым вершы «Беларускаму люду», у чатырохрадкоўі: «Нас падзялілі — хто? — Чужаніцы, чорных дарог махляры! К чорту іх межы! К д'яблу граніцы! Нашы тут гоні, бары!»

На перамовах у Рызе Савецкая Беларусь ня мела свайго прадстаўніцтва, урад БССР аддаў свае «паўнамоцтвы» ўраду РСФСР, як і запісана на ўступе да «Мірнае ўмовы паміж Расеяй і Украінай, з аднаго боку, і Польшчай — з другога», падпісанае ў Рызе 18 сакавіка 1921 году. Артыкул сёмы трактату пачынаецца гэтак:

«Польшча дае асобам расейскае, украінскае і беларускае нацыянальнасьці, што знаходзяцца ў Польшчы, на аснове раўнапраўя нацыянальнасьцяў, усе правы, што забясьпечваюць свабоднае развіцьцё культуры, мовы й выконваньня рэлігійных абрадаў» (гл. П. Н. Ольшанский. Рижский мир. Москва: «Наука», 1969).

На жаль, палітыка Варшавы ў дачыненьні да Беларусаў на «крэсах усходніх», асабліва пачынаючы ад 1926 году, калі да ўлады прыйшоў Пілсудзкі, была ўсё больш і больш рэзкім адмаўленьнем узятых на сябе ў Рызе забавязаньняў. Дык які юрыдычны грунт можа мець для Польшчы ўмова, калі падкошаная самымі-ж Палякамі ейная маральная аснова?

Рыскі падзел Беларусі быў перш-наперш пагвалтаваньнем прынцыпу самавызначэньня народаў на этнічнай аснове, а другое — нядоля Беларусаў у Польшчы Пілсудзкага й Рыдза-Сьміглага сталася дадатковым запярэчаньнем права Палякоў на заходнія землі Беларусі. Тое, што Беларусы на ўсход ад Рыскае мяжы, пачынаючы ад 1930 году, меліся яшчэ горш як пад Польшчай, аніяк не падмацоўвае польскіх прэтэнсіяў на Заходнюю Беларусь: аргумэнт мяжы 1772 году (адкуль паходзіць і рыская мяжа) сёньня павінна ляжаць ужо ў сфэры гісторыі, а не палітыкі.

Так што пасьля Рыгі «нашымі» «гоні, бары» ня сталіся ані ўва ўсходняй, ані ў заходняй Беларусі. «Нашымі» не зрабіла іх і задзіночаньне ў верасьні 1939 году. Але задзіночаньне гэтае ўзмоцніла шанцы Беларусам выжыць як нацыі. Апынуўшыся ў аднэй дзяржаве, беларускі народ здабыў большыя магчымасьці для развіцьця свайго палітычнага, эканамічнага і асабліва культурнага патэнцыялу. Беларускаму нацыянальнаму існаваньню яшчэ ад 16-га стагодзьдзя заўсёды была большая або меншая пагроза і з боку Маскоўшчыны, і з боку Польшчы. Кожны тэрытарыяльны падзел Беларусі, які-б ён ні быў, узмацняў гэтую пагрозу. З гэтага гледзішча, у кантэксьце гістарычнага развіцьця беларускай нацыі, тэрытарыяльная кансалідацыя Савецкай Беларусі ў верасьні 1939 году была зьвяй дадатнай.

Разгляд усіх аспэктаў гэтае падзеі ў беларускай гістарыяграфіі даўгі час стрымваўся савецкай цэнзурай, якая скоўвала ня толькі беларускіх, але й польскіх дасьледнікаў. Цяпер пытаньне гэтае вызвалілася спад ідэялягічна-палітычнага кантролю. Шырака пра яго піша польскі друк, і робяцца першыя крокі да разгляду гэтай праблемы ў друку савецкім. Гэтак, газэта «Літаратура і мастацтва» за 25 жніевня зьмясьціла артыкул Таляронка на тэму падзеяў жнівеня-верасьня 1939 году. Цікавы артыкул пра падзеі 50-гадовае і глыбейшае даўнасьці зьмясьціў Віктар Мароз у другім нумары часапісу «Кантакт». Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» праводзіць у Менску на гэтую тэму цэлую сэрыю сэмінараў.

Нарэшце мы дачакаліся часу, калі можна высьвятліць, прааналізаваць і асэнсаваць адзін з самых важных мамэнтаў нашай недалёкай мінуўшчыны.

«17 ВЕРАСЬНЯ (1939 ГОДУ) ЎЗЬЯДНАЛІСЯ ЗАХОДНЯЯ І ЎСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЫ, УЗЬЯДНАЛІСЯ Ў ТУРМЕ ПЕРАД АДПРАЎКАЙ НА РАССТРЭЛ. УЗЬЯДНАЛАСЯ НЯ СУВЭРЭННАЯ КРАІНА, А КОЛІШНЯЯ ЎСКРАІНА РАСІЙСКАЙ ІМПЭРЫІ... ПАЛЯНІЗАЦЫЮ ЗАМЯНІЛА ЯШЧЭ БОЛЬШ ЖОРСТКАЯ РУСЫФІКАЦЫЯ... РАССТРЭЛЫ І ДЭПАРТАЦЫІ, СЬМЕРЦЬ І ГОРА — ВОСЬ ЗЬМЕСТ 'РАДАСНАЕ' ПАДЗЕІ 17 ВЕРАСЬНЯ ПАД БЛІШЧАСТЫМ ЛЁЗУНГАМ УЗЬЯДНАНЬНЯ НАЦЫІ...». — З паведамленьня аб праведзеным у Менску сэмінары, наладжаным Соймам БНФ «Адраджэньне», на якім рэфэрат чытаў др. Анатоль Грыцкевіч (*«Навіны» БНФ, № 9-10, 6.VIII.89*).

## 23-ЦІ КАНГРЭС БАЗА

У Нью-Ёрку 2 верасьня ў памешканьні Фундацыі імя П. Крэчэўскага адбыўся штодвухгадовы зьезд дэлегатаў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Амэрыцы. У прэзыдыюм зьезду былі абраныя: др. Янка Запруднік (старшыня), сп-чна Раіса Станкевіч і сп. Сяргей Карніловіч (сакратары).



*Прамаўляе сп. Ф. Нюнько. Сядзіць сп. А. Шукелайць.*

Зьезд заслухаў справаздачы, абраў кіраўнічыя органы, прыняў рэзалюцыі. Знакам новага часу была прысутнасьць на зьезьдзе суродзіча зь Вільні, сп. Фёдара Нюнька, прадстаўніка управы беларускага культурнага таварыства «Сябрына» ў Вільні. Сп. Нюнько на просьбу зьезду расказаў пра жыцьцё Беларусаў у Літоўскай ССР, пра магчымасьці арганізавацца, якія дала перабудова, ды пра прыхільнае стаўленьне да беларускіх патрэбаў літоўскага руху за перабудову «Саюдзіс».

Старшыня Галоўнае Управы БАЗА сп. Антон Шукелайць у сваёй справаздачы адзначыў рост апошнімі двума гадамі актыўнасьці Задзіночаньня, як вынік пашырэньня кантактаў з Бацькаўшчынай ды ў сувязі з гэтым цясьнейшае супрацоўніцтва з Арганізацыяй Беларуска-Амэрыканскае Моладзі (старш. сп. Юрка Азарка).

На працягу справаздачнага пэрыяду актыўнае арганізацыйна-культурнае жыцьцё праходзіла ў ньюджэрзыйскім аддзьдзеле (старш. сп. Міхась Тулейка): добрай фінансавай гаспадаркай мог пахваліцца ньюёркскі аддзьдзел (старш. сп. Алесь Міцкевіч); дэлегаты радыя былі пачуць пра справы клíўлендзкага аддзьдзелу (старш. сп. Янка Ханенка), дзе добра наладжанае культурнае жыцьцё й пачатае будаўніцтва вялікага грамадзкага цэнтру, пра што расказаў сп. С. Карніловіч.

Рэдактар газэты «Беларус» сп. Я. Запруднік у сваёй справаздачы паінфармаваў пра ўзмоцненае зацікаўленьне газэтай «Беларус» у Польшчы й БССР, адкуль прыходзяць усё новыя просьбы прысылаць газэту. Скарбнік выдавецтва «Беларус» сп-чна Р. Станкевіч, даўшы фінансавую справаздачу, падкрэсьліла канечную патрэбу папаўненьня касы выдавецтва ў сувязі з ростам выдаткаў. Рэдкалегія «Беларуса» пастанавіла зьвярнуцца да сваіх чытачоў і суродзічаў наагул з заклікам аб дапамозе.

Др. Запруднік прачытаў дэкрэт Рады БНР аб узнагароджаньні газэты «Беларус» ордэнам Пагоні з нагоды 40-годзьдзя БАЗА.

Уступаючай Галоўнай Управе, і ўпасобку ейнаму старшыні сп. А. Шукелайцю, было прызнанае абсалютором з падзякай. Новая ўправа, выб-

*(Працяг на 2-й б.)*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $20 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 20 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ПАСТАНОВЫ

**23-га кангрэсу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Амэрыцы, што адбыўся ў Нью-Ёрку 2 верасьня 1989 году.**

1. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне выказвае сваё падтрыманьне Беларускаму Народнаму Фронту за перабудову «Адраджэньне» і Беларускаму грамадзкаму гісторыка-асьветніцкаму таварыству памяці ахвяраў сталізму «Мартыралёг Беларусі» і іхнай самаахвярнай і дабрароднай дзейнасьці на карысьць нацыянальна-дэмакратычнага адраджэньня народаў Беларусі, умацаваньня эканомікі краю ды паглыбленьня гістарычнай памяці Беларусаў. Дзейнасьць БНФ, «Мартыралёгу Беларусі», Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак збольшвае шанцы на незварачальнасьць працэсу дэмакратызацыі ды забясьпечвае поступ да свабоднага нацыянальнага існаваньня й загарантаваньня аптымальных умоваў для выяўленьня індывідуальнага й калектыўнага творчага патэнцыялу беларускага грамадзтва.

2. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне далучаецца да асуджэньня ўстаноўчым зьездам БНФ ў Вільні 24-35 чэрвеня сёлета ўраду Беларускае ССР за злачыннае замоўчваньне вынікаў чарнобыльскай катастрофы на Беларусі ды абыякавае стаўленьне да патрэбаў жыхарства паражаных радыяцыяй мясцовасьцяў Рэспублікі і падтрымвае дамаганьні, каб асобы, адказныя за засакрэчваньне інфармацыі пра чарнобыльскую аварыю, былі аддадзеныя пад суд.

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне падтрымвае зварот устаноўчага зьезду БНФ «да ўсіх народаў сьвету, да ўсіх дабрачынных арганізацыяў», у якім выказаная просьба праявіць салідарнасьць зь беларускім народам, дапамагчы яму мэдыцынскай тэхнікай, мэдыкамэнтамі, грашыма для лячэньня хворых, для будаўніцтва жыльля тым, хто будзе адселены з раёнаў, заражаных радыяцыяй Чарнобыля. БАЗА спадзяецца, што ўлады Беларускае ССР зарэгіструюць Беларускі Народны Фронт, каб стварыць гэтай дэмакратычнай арганізацыі ўмовы для праводжаньня дзейнасьці ў нармальных абставінах, каб БНФ мог выкарыстаць максымальна тую патэнцыяльную дапамогу пацярпелым ад Чарнобыля, якую Беларусы Амэрыкі гатовыя даць.

3. 23-ці кангрэс БАЗА заклікае ўсіх сваіх сяброў і ўсіх суродзічаў у Амэрыцы далучыцца да стварэньня ў чэрвені сёлета на Беларусі Таварыства Беларускае Мовы, падтрымаць гэтае Таварыства маральна й матар'яльна, бо яно паставіла перад сабой высакародную мэту аднаўленьня годнасьці беларускае мовы, звароту яе ўва усе сфэры жыцьця, далейшага разьвіцьця ды захаваньня ейнае чысьціні й самабытнасьці.

4. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне падтрымвае ініцыятыву на Беларусі прадстаўнікоў розных канфэсіяў, хрысьціянскіх і нехрысьціянскіх, карыстацца як мага шырэй беларускай мовай у рэлігійнай практыцы. Беларуская мова, якая мае за сабой стагодзьдзі дзяржаўнага статусу й функцыянаваньня ўва ўсіх сфэрах культуры, павінна ізноў стацца фактарам маральна-палітычнага адзінства беларускага народу, гарантыяй ягонае нацыянальна-культурнае няўміручасьці.

5. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне падтрымвае выказаную на старонках газэты «Літаратура і мастацтва» (18.VIII.89) ідэю правядзеньня «сусьветнага кангрэсу Беларусаў». Гэткі кангрэс мог-бы адбыцца ў часе наступнае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, што прыпадае на 3-5 верасьня 1990 году і якая, як мяркуецца, адбудзецца ў горадзе Клііўленьдзе ў штаце Агаё ў ЗША.

## 23-ЦІ КАНГРЭС БАЗА

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

раная ў складзе: Антон Шукелайць — старшыня, Юрка Азарка — заст. старш., Франьціш Бартуль — заст. старш., сябры ўправы: Вера Запруднік, Васіль Русак, Ала Орса-Рамана, Раіса Станкевіч, Аляксандар Міцкевіч, Янка Запруднік, Юрка Кіпель.

У Рэвізійную камісію былі абраныя сп.сп. Уладзімер Русак (старш.), Віталь Кажан і Кастусь Верабей.

Пасьля нарадаў ньюёркскі адзьдзел БАЗА наладзіў для дэлегатаў і гасьцей прыняцьце.

## *ДАМАГАНЬНІ СУДЗІЦЬ М. СЬЛЮНЬКОВА*

На ўстаноўчым зьезьдзе БНФ «Адраджэньне» (у Вільні 24-25 чэрвеня сёлета) выказваліся дамаганьні «прыцягнуць да судовае адказнасьці Мікалая Сьлюнькова (цяперашні сябра Палітбюро ЦК КПСС), які ў часе чарнобыльскае аварыі быў сакратаром ЦК кампартыі Беларусі. Як выясьнілася на зьезьдзе, ён усімі сіламі перашкаджаў своечасоваму агалошаньню жыхарству рэспублікі аб небясьпецы радыяактыўнага заражэньня й прымяншаў вынікі аварыі». Старшыня зьезду З. Пазьняк дыпляматычна абыйшоў гэты войстры рыф.

*(Паводля карэспандэнцыі Дзьмітрыя Міхайлава ў часапісе Літоўскага руху за перабудову «Согласие», № 10, 10.VI.89).*

### БЯЗ МЫЛА Ў ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЕ

Мяжа Хойніцкага раёну Гомельскай вобласьці ляжыць пяць кілямэтраў ад разбуранага чарнобыльскага атамнага рэактара. У калектыўным лісьце ў газэту «Известия» больш як 600 жыхароў гор. Хойнікі пытаюцца: «Хацелася-б ведаць: як можна захоўваць асабістую гігіену (паводля рэкамэндацыі вучоных), калі на тры месяцы нам выдзяляюць адзін (!) кавалачак мыла і адзін пачак парашку». («Известия», 30.VII.89)

## АБ ПЕРААДОЛЕНЬНІ ВЫНІКАЎ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЫ

***Ад Рэдакцыі:** Ніжэй зьмяшчаем прысланы нам старшынёй Камісіі па замежных сувязях БНФ «Адраджэньне» Валянцінай Трыгубовіч тэкст рэзалюцыі ўстаноўчага зьезду Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне», прынятае на ўстаноўчым зьездзе БНФ у Вільні 24-25 чэрвеня сёлета.*

У выніку Чарнобыльскай катастрофы палова тэрыторыі Беларусі моцна заражаная радыянуклідамі. Пятая частка ворнай зямлі Рэспублікі няпрыдатная для выкарыстаньня. Стала немагчыма ня толькі весьці гаспадарчую дзейнасьць, але і жыць у Брагінскім, Буда-Кашалёўскім, Краснапольскім, Нараўлянскім, Хойніцкім, Чэрыкаўскім ды іншых раёнах Рэспублікі. Заражанасьць у шмат якіх мясьцінах перавышае 15 кюры на квадратны кілямэтр, а месцамі дасягае 200 кюры і больш. У многіх паселішчах людзі набралі за тры гады да 25 бэр. Расьце колькасьць ракавых захворваньняў, зьніжаецца імунітэт да гэтак званых звычайных хваробаў. Пагроза генафонду нацыі зьяўляецца жахлівым фактам. Вынікі катастрофы, калі браць пад увагу аддаленую пэрспэктыву, можна параўнаць толькі са сталінскім і гітлераўскім генацыдам. Яны пагражаюць існаваньню Беларусаў на Зямлі.

У тым, што сотні тысячаў нашых грамадзян жывуць ва ўмовах, няпрыдатных для жыцьця, вінаваты, перш за ўсё Ўрад Беларускай ССР. Своечасова не ацаніўшы сытуацыю, усяляк прыхарошваючы становішча, ён не запатрабаваў ад Ураду ССР сродкаў на поўнае адсяленьне людзей з заражаных раёнаў і паселішчаў. Ён нават адмовіўся ад прапановы Ураду Савецкага Саюзу цалкам выселіць Брагінскі раён. Кіраўнікі Рэспублікі зрабілі ўсё, каб дасьветчаныя народныя дэпутаты ня трапілі на нараду з удзелам Старшыні Савету Міністраў СССР, што праводзілася ў часе работы Зьезду народных дэпутатаў СССР і была прысьвечаная чарнобыльскай праблеме.

Устаноўчы зьезд Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне» расцэньвае дзеяньні Ураду БССР як злачынства супраць сёньняшніх і наступных пакаленьняў народу Беларусі, як жаданьне кіраўніцтва БССР спадабацца кіраўніцтву Савецкага Саюзу, як імкненьне паранейшаму ствараць фальшывы вобраз сытай і задаволенай Беларусі ў вачах савецкай і сусьветнай грамадзкасьці.

Устаноўчы зьезд БНФ «Адраджэньне» патрабуе ад Урадаў БССР і СССР прыняць неадкладныя меры дзеля выратаваньня тых, каго яшчэ можна выратаваць, дзеля аблягчэньня пакутаў тых, хто ўжо хворы.

Улічваючы тое, што Урад БССР і розныя саюзныя ведамствы хаваюць аб'ектыўную інфармацыю аб сытуацыі ў заражаных раёнах, Устаноўчы зьезд Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне» патрабуе зьняць сакрэтнасьць зь інфармацыі пра стан радыяцыі і вынікі Чарнобыльскай катастрофы на Беларусі. Павінна быць поўная адкрытасьць і поўная магчымасьць веданьня пра радыяцыйнае становішча, пра заражанасьць прадуктаў, паветра, зямлі, вады, расьлін, жывёл, людзей для кожнага жыхара Рэспублікі. Народ павінен ведаць пра свой лёс, пра будучыню сваіх дзяцей і мець магчымасьць ратавацца.

Трэба стварыць усе ўмовы для паратунку насельніцтва. Дзеля гэтага неабходна патрабаваць сродкі і фондавыя матар'ялы з адказных за трагедыю саюзных міністэрстваў, каб ажыцьцявіць адсяленьне людзей з моцна заражаных раёнаў Магілёўскай і Гомельскай вобласьцяў у адносна чыстыя раёны Віцебскай вобласьці (якая абязьлюдзела ў выніку бюракратычнай гаспадарчай палітыкі) і ў іншыя аддаленыя раёны Беларусі. Пры гэтым насельніцтва з пацярпелых раёнаў не павінна дэпартавацца за межы Рэспублікі. Народ павінен разумець гэта і не паддавацца вынарадаваньню нацыі. Землі, зь якіх часова адселеныя жыхары, павінны быць пад строгім рэспубліканскім кантролем і міжнародным наглядам, мець асаблівы ахоўны юрыдычны статус. Рэжым утрыманьня іх вызначаецца Урадам Беларусі.

Неабходна тэрмінова спыніць пасыланьне моладзі і дзяцей на сельскагаспадарчую і любую іншую працу ў радыяцыйна заражаныя раёны Беларусі.

Уся Беларусь павінна стаць бязьядзернай зонай.

Кіраўнікі БССР, што на працягу 1986-89 гадоў завялі Рэспубліку і народ да такога бядотнага стану і не запабеглі вынікам Чарнобыльскай трагедыі, павінны панесьці адказнасьць перад законам, гісторыяй і людзьмі, перад пакаленьнем.

Устаноўчы зьезд БНФ за перабудову «Адраджэньне» зьвяртаецца да ўсіх народаў сьвету, да ўсіх дабрачынных арганізацыяў з просьбай праявіць салідарнасьць зь беларускім народам, дапамагчы яму мэдыцынскай тэхнікай, мэдыкамэнтамі, грашыма для лячэньня хворых, для будаўніцтва жыльля тым, хто будзе адселены. Зьезд спадзяецца на дапамогу Беларусаў, якія жывуць за мяжой, на садзеяньне кіраўніка Беларускае Аўтакефальнае Царквы Архіепіскапа Мікалая і Апостальскага Візытатара для Беларусаў-каталікаў айца Аляксандра Надсона, і даручае Сойму падрыхтаваць адпаведныя звароты. Зьезд мяркуе, што Ўрад Беларускай ССР не адмовіцца ад такое дапамогі.

Устаноўчы зьезд БНФ за перабудову «Адраджэньне» выказвае сваё спачуваньне народам Украіны і Расеі, якія таксама пацярпелі ад Чарнобыльскае катастрофы, і выказваецца за супольныя дзеяньні дзеля пераадоленьня яе вынікаў.

## ЧАРНОБЫЛЬ: ХАВАНЬНЕ ВЫНІКАЎ

Брытанскі часапіс New Scientist (15.VII, бб. 28-29) падаў пра высяленьне жыхароў зь мясцовасьцяў, што ляжаць паза 30-кілямэтровай «мёртвай» зонай. Часапіс піша, што радыяцыяй заражаныя 18 працэнтаў тэрыторыі Беларускае рэспублікі з жыхарствам 500 тысячаў. Радыяцыяй забруджаная пятая частка ворнае зямлі БССР.

Мэдычныя агляды, якія робяцца жыхаром заражаных тэрыторыяў, піша часапіс, мала супакойваюць людзей, бо ад іх хаваюць вынікі аглядаў. Пра хаваньне вынікаў пісаў карэспандэнт газэты «Московские Новости» Ўладзімер Калінка. Пасьля артыкулу Калінкі больш як 500 жыхароў Гомля напісалі калектыўны ліст, у якім наракалі на нястачу «чыстых» прадуктаў, дазіметраў ды іншага мэдычнага абсталяваньня.

Часапіс згадвае таксама ліст ад беларускіх народных дэпутатаў урадавай камісіі ў Маскве з нараканьнем, што бязьдзейнасьць уладаў «робіць вельмі адмоўны ўплыў і дэмаралізуючы псыхалягічны эфэкт на жыхароў».

## ТВОРЫЦЦА РАБОЧЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ

Згодна з паведамленьнямі менскіх карэспандэнтаў Беларускае праграмы радыё «Свабода», у Беларусі робяцца намаганьні стварыць работніцкую арганізацыю, якая бараніла-б правы працоўных і нацыянальныя інтарэсы Рэспублікі. Гэтак, 5-га ліпеня ў Менску на сходзе рабочых сталічных групаў падтрымкі Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» была абраная ініцыятыўная група для заснаваньня гэткае арганізацыі, Рабочага Саюзу Беларусі. 8-9 ліпеня гэтая ініцыятыўная група брала ўдзел у сустрэчы ў Маскве прадстаўнікоў рабочых клюбаў Расеі і Ўсходняй Украіны ды прадстаўнікоў падобных рухаў Латвіі й Літвы. На нарадзе абмяркоўваліся пэрспэктывы й формы работніцкага руху ў СССР. Балтыцкія й беларуская дэлегацыі выказаліся за стварэньне незалежных грамадзка-палітычных работніцкіх арганізацыяў, якія мелі-б свой супольны каардынацыйны цэнтар у Маскве.

12-га ліпеня на сходзе рабочых зь менскіх групаў падтрымкі БНФ быў прыняты зварот да рабочых Беларусі. У другім пункце звароту ўхвалены прынцып «палітычнага плюралізму, шматпартыйнасьці і недапушчальнасьці манаполіі на палітычную ўладу якой-небудзь арганізацыі». У сёмым пункце выказанае дамаганьне «забясьпечыць магчымасьць далучэньня працоўных да роднае мовы і культурнай спадчыны свайго народу».

9-га верасьня ў Доме культуры заводу імя Леніна ў Менску адбылося інфармацыйна-арганізацыйнае пасяджаньне, у якім узяло ўдзел 208 рабочых ад 72 прадпрыемстваў Рэспублікі. Абранаму арганізацыйнаму камітэту даручана распрацаваць праект статуту новай грамадзка-палітычнай арганізацыі, якая будуецца на прынцыпах канфэдэрацыйнага аб'яднаньня работніцкіх камітэтаў і саюзаў.

## «ЖЫВІЦА» Ў НЬЮ-ЁРКУ

Стараньнямі Беларускае місіі пры Аб'еднаных Нацыях і савецкага таварыства «Радзіма» ў залі бібліятэкі ААН адбыўся 21 верасьня канцэрт, у якім узялі ўдзел двое прадстаўнікоў беларускага народнага мастацтва, заснавальнікі новага ансамблю «Жывіца» — заслужаная артыстка БССР Валянціна Пархоменка й саліст Аляксандар Казак (на здымцы).


*Валянціна Пархоменка й Аляксандар Казак — арганізатары ансамблю «Жывіца».*

У праграме канцэрту, у якім узялі таксама ўдзел двое сьпевакоў з Масквы, Пархоменка й Казак выканалі — сольна й дуэтам, а-капэльна і пад акампанімэнт інструмэнтаў — каля дзесятка народных песьняў (белым голасам). Абое сьпевакоў маюць прыгожыя, звонкія галасы, глыбока адчуваюць характар песьні. Сп. Казак віртуозна йграў на гармоніку, а таксама на... саломе! В. Пархоменка адзначалася багатым народным касьцюмам (які яна сама й зрабіла). Міжнародная аўдыторыя вельмі цёпла прыняла беларускіх артыстаў.

Слухачы-Беларусы шкадавалі, што ў Нью-Ёрк ня прыехаў цэлы ансамбль «Жывіца» (12 музыкаў і двое сьпевакоў), першы публічны канцэрт якога ў сьнежні летась шырака й вельмі дадатна апісаны ў газэце «Голас Радзімы» (№ 52/88).

Пра свой ансамбль В. Пархоменка сказала: «Жывіца — гэта смала, што зьяўляецца на параненым дрэве, яна загойвае раны, застывае як бурштын і захоўвае тое, што ў яе трапіла, на вякі. Мы з Казаком шмат езьдзілі па рэгіёнах рэспублікі, сустракаліся са старымі людзьмі, запісалі шмат песень, музыкі, легендаў і паданьняў. Гэта была доўгая й вялікая работа. У нашым калектыве сабраныя амаль усе музычныя інструмэнты, якія былі некалі на Беларусі: ліра, цымбалы, салома, дудкі, гусьлі, скрыпкі, гармонікі, дуда, шумавыя інструмэнты, званочкі, кмены, травы, акарына або карынка і г.д. У рэпэртуары ансамблю песьні, танцы. Праграма ідзе як народнае дзейства, як народны тэатр-дзея. Ёсьць старажытны рэліктавы абрад 'Жаніцьба коміна', песьні беларускага Палесься ды іншае. Усё гэта выконваецца аўтэнтычна, з захаваньнем манеры выканьня, моўных дыялектаў і таго духу, які бытаваў у дадзеных рэгіёнах, бо песьня, мова, фальклёр — душа народу, а яна ў Беларуса цудоўная».

Беларусы Нью-Ёрку, як і Беларусы Кліўленду, дзе трупа таварыства «Радзіма» пабывала колькі дзён перад тым, былі вельмі радыя сустрэцца з прадстаўнікамі «Жывіцы», вельмі высока ацанілі іхнае мастацтва й сардэчнасьць ды засталіся з гарачым жаданьнем пабачыць і паслухаць «Жывіцу» ў поўным складзе.

### ЖЫРОВІЦКІ МАНАСТЫР

Вялікі ілюстраваны матар'ял пра Жыровіцкі манастыр зьмясьціла камсамольская газэта «Чырвона зьмена» (26.VIII). У манастыры жывуць цяпер 16 манахаў і 50 манашак. 23 ліпеня сёлета ў манастыры пачала працаваць сэмінарыя, у якой займаюцца 40 сэмінарыстаў.

*З жыцьця ў Чыкага*

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

Адзначэньне Тыдня пачалося ў нядзелю 16 ліпеня ў канцэртнай гарадзкой залі пры Нэйві Пір. Пасьля ранішняй літургіі, адслужанай біскупам польскага паходжаньня Абрамовічам, апаўдні пачалася праграма: з прамовамі на тэму дня выступілі былы кангрэсмэн а цяперашні гарадзкі райца Рамам Пуцінскі і старшыня Камітэту Паняволеных Народаў (КПН) у Чыкага Казімір Оксас, Амэрыканец літоўскага паходжаньня. Сп-ня Вера Рамук адсьпявала амэрыканскі гімн. Коратка прамаўлялі прадстаўнікі розных этнічных групаў; ад імя беларускай групы гаварыла сп-ня Рамук пра сучасны стан на Беларусі. Сп-ня Рамук адсьпявала таксама God Bless America.


*Частка беларускага стэнду на выстаўцы ў Чыкага*

17 ліпеня ў штатным будынку адчынілася трохдзённая выстаўка мастацтва некалькіх этнічных групаў, у тым ліку й беларускае — стараньнямі сп-тва Людвікі й Антона Бяленісаў і сп-ні Веры Рамук. Экспанаваліся дзяружкі, вышыўкі, здымкі беларускіх дзеячоў, пісьменьнікаў, вакальна-інструмэнтальных гуртоў, спартсмэнаў і спартсмэнак; раздаваўся даведачны матар'ял пра Беларусь.

Увечары таго-ж дня ў тым-жа будынку адбылося прыняцьце губэрнатарам штату Джэймсам Томсанам прадстаўнікоў паняволеных народаў. Пасьля вячэры былі ўнесеныя групай вайскоўцаў амэрыканскія сьцягі на залю, дзе сталі сьцягі ўсіх паняволеных народаў. Сп-ня В. Рамук адсьпявала амэрыканскі гімн, а архімандрыт Бутрымскі, настаяцель украінскай каталіцкай царквы, сказаў малітву. Прамаўлялі коратка старшыня КПН Казімір Оксас, штатная сэнатарка Джуды Бар Тапінка ды прыяцелька Беларусаў Аўрэлія Пуцінская, сакратарка акруговых судоў. Вэнгерская група выканала колькі бадзёрых танцаў.

У часе праграмы сп. Оксас уручыў сп-ні Веры Рамук, Біруце Віндасіус (літоўскага паходжаньня) і сэнатарцы Джуды Тапінцы ўзнагародныя плякеткі за выдатную працу на карысьць паняволеных народаў. Сугучна праграме былі прачытаныя дэклярацыі пра свабоду.

У заключным слове сп. Л. Казаніўскі, памочнік губэрнатара да этнічных справаў, падсумаваў дзейнасьць КПН у Чыкага. Учарыстасьць закончылася малітвай біскупа Абарамовіча і песьняй «Божа, блаславі Амэрыку» ў выкананьні сп-ні В. Рамук.

**Вір**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

### Сабор праваслаўных прыходаў

Рада Беларускае Праваслаўнае Царквы Паўночнае Амэрыкі паведамляе, што ў суботу 7 кастрычніка ў царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, у Саўт-Рывэры, Н.-Дж., а 10 гадзіне раніцы будзе адслужаны ўрачысты малебен, а пасьля ў парахвіяльнай залі распачне сваю працу Сабор духавенства і вернікаў беларускіх праваслаўных прыходаў у юрысдыкцыі Ўсяленскага Канстантынопальскага Патрыярхату.

У нядзелю 8 кастрычніка — сьвяткаваньне Пакрова Прасьвятое Багародзіцы. Напярэдадні, а 6 гадзіне ўвечары, усё прыбыўшае духавенства адслужыць урачыстую «Ўсеначную». У сам дзень сьвята Сьвятую Літургію, якой пачатак прадбачыцца на 9:30 раніцы, узначаліць Першагіерарх Украінскае Царквы ў юрысдыкцыі Усяленскага Патрыярхату Ўладыка Ўсевалад. Пасьля літургіі будзе адслужаны малебен, падчас якога адбудзецца ўрачыстае асьвячэньне іконы «Усіх Беларускіх Сьвятых», напісанай а. Канстаньцінам Бандаруком.

Адразу пасьля Божай Службы — банкет. Уступ: $20.

Падчас банкету будзе прачытаны рэфэрат на тэму дня і выступіць царкоўны хор пад кіраўніцтвам рэгента Аўгена Скаўронскага.

*З жыцьця ў Нью-Джэрзы*

## РАЗЬВІТАНЬНЕ З Ф. ВЭКАМ

Шостага верасьня ў гор. Эдысане адбыўся разьвітальны абед у гонар сп. Фрэдэрыка Вэка, былога дырэктара этнічных праграмаў ньюджэрзыйскага Цэнтру Мастацтваў, дзе ў 70-х гадох ладзіліся беларускія фэстывалі. Сп. Вэк перабіраецца на сталае жыхарства ў гор. Сан-Дыега ў Каліфорнію.

Ад Беларусаў на абедзе былі Лявон і Ліза Літаровічы, Надзя Кудасава, Ірэна Рагалевіч-Дутко ды Зора й Вітаўт Кіпелі. У сваёй прамове др. В. Кіпель падзякаваў ад імя Беларусаў сп. Вэку за прыхільнасьць і вялікую дапамогу ў ладжаньні фэстываляў, а сп-ня Ірэна Рагалевіч-Дутко, якая на працягу 15 гадоў супрацоўнічала із сп. Вэкам у працы з этнічнымі групамі ды якая цяпер прадстаўляе Беларусаў у Штатнай Радзе Нацыянальнасьцяў, падкрэсьліла надзвычайны ўклад сп. Вэка ў справу папулярызацыі беларускае культуры як у штаце Нью-Джэрзы, гэтак і паза ягонымі межамі.

У разьвітальным слове сп. Вэк прасіў прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў у Каліфорніі наладзіць зь ім лучнасьць. Ягоны адрас: Frederick W. Weck, 7245 Navajo Rd., San Diego, Ca. 92119.

# АДКАЗ БАРЫСУ САЧАНКУ

Вэрхал галоснасьці й перабудовы акрыліў, як выглядае, Барыса Сачанку, які вось ужо даўжэйшы час заядла выцягвае рознае глыбейшае карэньне з «жахлівых трыццатых», пра «аглабельшчыка» Бэндэ, пра НКВд, што замардавала Купалу, дый шмат іншага. Сачанка, калі чытаеш яго, здаецца сумленным ды яшчэ й патрыётам, і не з таго роду патрыятызму, пра які некалі Джансан сказаў: «патрыятызм — сховішча ўсяляких нягоднікаў».

Нарэшце Сачанка спасьцярог і нас, беларускіх эмігрантаў. Здавалася, што аб'ектыўнасьці ў яго хопіць, каб не спатыкнуцца дзе на якую незаўважаную патарчаку, нафашысьціць чыстым і нявінным. Ажно не. Чытачы «Зважай» ужо чулі пра гэта, бо ў № 1/54 была кароткая зацемка п. заг. «Калі не нафашысьціш, то ня зьмесьцяць».

У леташнім адзінаццатым нумары менскага часапісу «Маладосьць» Сачанка спрабаваў даволі абшырна ахарактарызаваць і нашых эміграцыйных, жывых і ўжо адыйшоўшых у лепшы сьвет, літаратараў. Дасталося й мне. Паводле аўтара, Акула ня толькі «вучыўся ў школе беларускіх 'ахвіцэраў', якую арганізавалі гітлераўскія акупанты ў Менску», але пасьля «адступіў у Германію, браў удзел у баёх супраць саюзных войск», ды цяпер «выдае 'часопіс беларускіх вэтэранаў', інакш паліцаяў, 'Зважай'».

Сёлета 19 студзеня я выслаў рэдактару «Маладосьці» ліст, у якім стараўся запярэчыць Сачанкавай хлусьні, падаючы факты із свайго жыцьця. Між іншага, зьвярнуўся я з просьбай да брытанскага Міністэрства абароны, каб далі даведку пра маю службу ў брытанскай Восьмай арміі і ўдзел у баёх у Італіі. У сакавіку атрымаў адказ (гл. «Ваенныя ўзнагароды», *Зважай, № 2/54*), у якім пададзеныя дэталі й даты ваеннай службы, у тым ліку і ўдзел у баёх за вызваленьне Балёніі. Прыслалі й ваенныя ўзнагароды: мэдаль за ўдзел у вайне 1939-1945 гадоў і Зорку Італіі. «Саюзныя войскі», супраць якіх паводля Сачанкі, я змагаўся, належна ацанілі мяне і ўзнагародзілі.

Мой ліст у «Маладосьць» выклікаў адказ. Пакуль гаварыць пра яго, варта згадаць адну, ня вельмі малазначную, дэталь. Нумару пятага «Маладосьці», дзе зьмешчаны Сачанкаў адказ, я не атрымаў. Спытаеце — можа віна якое пошты? Бывае-ж... Трэба думаць, што не. «Полымя» й «Маладосьць» выпісваю ўжо гадоў больш як дваццаць і ніколі яшчэ ніводзін нумар падарозе зь Менску да мае хаты не прапаў. І гэтым разам «Полымя» прыйшло (абодва часапісы зьяўляліся ў мяне амаль у той самы дзень), а «Маладосьці» й цяпер няма. Думаеце, віна пошты? Мяркую, што адпаведныя гнюсныя органы сочаць за маёй поштай...

Давялося ад сябры выпрасіць капію таго Сачанкавага адказу. У ім менскі пісьменьнік падае мой ліст у рэдакцыю цэласьцю дый дае свае камэнтары. Дзякую яму за гэта. Прызваіты, лагодны тон. Але, відаць, сьвярбела аўтарава рука. Згадваючы, што некалі ў «Змагарных дарогах» я «зрабіў спробу абяліць фашысцкіх прыхвасьняў», далей аўтар ставіць «цяжарнае пытаньне»: «Ці ня тую самую спробу робіць К. Акула і ў сваім лісьце, цяпер ужо маючы на ўвазе сябе?»

Сачанка скардзіцца, што «праверыць факты» ў яго «няма магчымасьці», бо «за межамі Бацькаўшчыны не паклапаціліся, не зрабілі спробы выдаць хоць-бы даведнік пра сябе тыпу 'Хто ёсьць хто'».

Згода. Няма такога. На эміграцыі беларускія выгнаньнікі з «раськіданага гнязда» знайшлі сродкі, каб выдаць зганьбаванага «аглабельшчыкамі» Алеся Гаруна, Купалу, некаторыя творы Коласа, Арсеньневу дый нямала іншых. Яны аддавалі цяжка запрацаваныя грошы, каб выдаваць «Запісы», газэты й часапісы, будаваць сьвятыні й грамадзкія дамы, пры ўсім гэтым змагаючыся праз свае публікацыі зь вялікім патокам небясьпечнае хлусьні з Масквы й Менску. Падобнай хлусьні, што цяпер яшчэ шырака цячэ зь менскае Вандэі ды іншых «роднапартыйных» сховішчаў.

У сваім лісьце ў «Маладосьць» я пісаў:

«Вясною 1944 году я вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. Тым з нас, што пільна сачылі за ваеннымі дзеяньнямі на франтох, ясна было, што гэнай вясной ці летам савецкія арміі займуць Беларусь. І думаў чалавек: ці сядзець, разявіўшы рот, ды чакаць, пакуль вядомы 'бацька народаў' падмяце ўсю моладзь і пагоніць на 'даёш Бэрлін'?

«Неўзабаве здарылася магчымасьць дабраахвотнікамі пайсьці ў Школу Каманьдзераў Беларускае Краёвае Абароны ў Менску, якая, меркавалася, дасьць нагоду адступіць на захад, каб вырвацца з рук і 'бацькі народаў' і бэрлінскага тырана. А для нас яны былі 'абое рабое'».

І не спадзяваўся я, што якраз тое «абое рабое» стане сьвятам свайго роду мінай для Сачанкі. Кажнаму разважнаму й кемліваму беларусу ведама, што для нашага народу і агрэсыўная Масква, і ня менш тады прагны на чужое Бэрлін былі «абое рабое». Колькі й чаго мы ім жадалі, дый ня толькі, каб павесіць абодвух на сухіх асінах. Усім гэта ведама, за выняткам тых, хто думае чужымі трафарэтамі й дзейнічае ворагам убітымі ў галаву рэфлексамі. З гэтае прычыны варта больш уважна прыглядзецца да Сачанкі. Дамо яму слова:

«З эмігрантаў на маю публікацыю адгукнуўся толькі адзін К. Акула, за што я шчыра яму ўдзячны. Ён мужна перанёс мае даволі крытычныя ацэнкі яго твораў, ня ўступіў у спрэчку адносна іх вартасьці, што робіць ужо само па сабе гонар, паказвае: К. Акула ня толькі таленавіты пісьменьнік, але мае прафэсійны такт, культуру. Заўвагі яго датычаць біяграфіі. Навошта-ж прыпісваць грахі, якіх ён ня мае? І тут я разумею яго і падзяляю турботу. Аднак, калі К. Акула бярэцца апраўдваць здраду свайму народу, сваёй зямлі, Радзіме тым, што маўляў і 'бацька народаў' і 'бэрлінскі тыран' былі 'абое рабое' і ён, К. Акула (тады Качан) баяўся, што 'ведамы бацька народаў' падмяце ўсю моладзь (а значыцца, і яго!) і пагоніць на 'даёш Бэрлін!', то... мне хочацца лаяцца. Хіба-ж можна блытаць божы дар з самай звычайнай яечняй?! Што гэта? Наіўнасьць? Цынізм?..».

Вось у гэтай зацытаванай вытрымцы, як бачыце, ёсьць апагея разважаньняў майго апанэнта. Тут, як ведамая нямецкая прыказка кажа, недзе «сабака закапаны». Галоўны тон гэтаму «шлягеру» дае аўтарытэтнае, няйнакш з высокае трыбуны сказанае, што я і падобныя мне намагаюцца «апраўдваць здраду свайму народу, сваёй зямлі». Вось дзе ён, той «сабака»... Дзіва няма, што давялося на помач і Бога і яечню паклікаць. Рагатаць хочацца.

Якому гэта народу мы здрадзілі? Таму, якога кагэбісты нявіннага спляжылі ў Курапатах, мільёнам тых, што вымардавалі ў Гулагу, ці таму паняволенаму народу, якому зьненавіджаная ім «родная партыя» загадвае з трыбуны? І калі гэта наш паняволены народ выбіраў тую, што выступае на трыбунах зьненавіджаную хэўру ды даваў розным прокшам, бягуном, раманоўскім ці іншым бажком права выступаць ад ягонага імя?

Паверце мне, спадар (ці як там Вас вялічаюць) Сачанка, што да нас даходзяць адгалоскі з паняволенай бацькаўшчыны. І ніколі нашы чэсныя й працавітыя, што цяпер у маскоўскім ярме церпяць, суродзічы — паўтараю, ніколі! — нас не называлі здраднікамі. А як яны называюць тых розных сакаловых і іншых нікчэмнікаў, што сяньня тармозяць беларускае адраджэньне, ці мне Вам казаць?

Усё-ж, чаму Сачанка рашыў зноў нам нафашысьціць? Ці ня варта тут пашукаць таго, сяньня ўжо ці не рэфлексійнага (асабліва ў пісьменьнікаў такога рангу) прыказкавага «асінавага кала», які ворагі нашага народу загнялі нам на працягу стагодзьдзяў, каб параліжаваць нашы душы, каб рабаўласьнікі маглі бясьпечна, зь дзікім гіганьнем із шматпавярховымі матамі спраўляць на «раськіданым гнязьдзе» беларускага народу сваё веча?

У артыкуле «Край, дзе жывём» (ЛіМ, 14.VII.89) Сачанка гаворыць пра «здраднікаў народу» і называе некаторых, ды ня тых, што пайшлі азадкі маскоўскія лізаць. Яму спатрэбілася на падмацаваньне і Багдановічава «Пагоня». Асьмеліўся цытаваць «Пагоню» поўнасьцю, уключна з радкамі:

Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі.  
Не давайце чужынцамі быць!  
Хай пачуюць, як сэрца начамі  
Аб радзімай старонцы баліць...

Колькі да гэтага часу даводзілася чытаць падсавецкую прэсу, заўсёды розныя аўтары спыняліся на тым «бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі!» і далей ані кроку. Зразумела. Хто асьмеліцца ўкваліць «старшага брата»? Сачанка адважыўся, хоць прыслужнікаў масксалёў не назваў...

У іншым месцы таго-ж артыкулу Сачанка гаворыць пра «бедную беларускую мову», згадвае, як розныя «інквізытары» палілі яшчэ ці не скарынінскія біблії ды іншыя кнігі, выдадзеныя для дабра й асьветы нашых суродзічаў. І вось, — зьвярнеце ўвагу, — ён падсумоўвае: «А колькі і чаго было спалена і разрабавана, вывезена ў свае краіны заваёўнікамі — палякамі, французамі, немцамі?»

Чулі? Нават і да Швэдаў дабраўся, а таго, што толькі вылез з татарскага ці мангольскага іга, акрэп ды паліў, гвалціў, рабаваў, мардаваў Літву-Беларусь, таго, самага зьвяружыстага, найбольшага злачынцу Сачанка й не назваў.

Сачанка ўзабраўся на трыбуну. Ён, прычасьціўшыся «мудрасьцю» выдатных нікчэмнікаў, быццам цэзарава жонка (вонках падазрэньня), чаўпе нам, што мы павінны ў яго ці тых з маскоўскай хэўры спавядацца. Ці ня варта зьлезьці з трыбуны, прыглядзецца, як і сяньня «раскаваныя рабы» расьцягваюць, пустошаць усё працавітымі рукамі паняволенага народу здабытае? Там, каля забруджаных гігантамі жывёлагадоўлі рэкаў і вазёраў, ля салігорскай ці новаполацкай катастрофаў, на зруйнаваных нітратамі і рознымі ядахімікатамі нівах, на цэлым куце некалі прыгожай, урадлівай і жыццядайнай Беларусі, паранепай Чарнобылем, між заражаных дзетак і матак, там трэба паслухаць, што народ пра «абое-рабое» гаворыць, што ён зычыць цяперашнім валадаром.

**К. Акула**

### ВЯРТАНЬНЕ ПАЭТА

Менская газэта «Знамя юности» (15.VIII) зьмясьціла вялікі артыкул свайго аглядальніка Галіны Айзэнштадт пра беларускага эміграцыйнага паэта Масея Сяднёва пад заг. «Я прыду з далёкае чужыны...» (словы з аднаго зь вершаў Сяднёва). Артыкул напісаны ў вельмі дабразычлівым тоне з дадатнымі ацэнамі творчасьці паэта й перадрукам трох ягоных вершаў — аднаго з 1943 году і двух з 1988-га — узятых з апошняга зборніка Сяднёва «А часу больш, чым вечнасьць». Вершы апублікаваныя ў правапісе арыгіналу (дарэформенным).

### ЧАТЫРЫ ВЕРШЫ М. СЯДНЁВА

Чатыры вершы Масея Сяднёва ў добрым перакладзе Вадзіма Крэйда зьмешчаныя ў расейскім літаратурным часапісе «Новый Журнал» (кн. 175, 1989), што выходзіць у Нью-Ёрку. Вершы спалучаныя матывам агню, як сымбалем незгасальнай памяці сваіх вытокаў.

### БЕЛАРУСКІ ПЭН-КЛЮБ

У жнівені сёлета ў Менску быў створаны «ў межах квоты міжнароднага ПЭН-клюбу для нацыянальных органаў у СССР» беларускі ПЭН-цэнтар. У ініцыятыўную групу ўвайшло 20 пісьменьнікаў, якія абралі за прэзыдэнта Беларускага Пен-цэнтру Рыгора Барадуліна, віцэ-прэзыдэнтаў — Уладзімера Арлова й Алеся Разанава, сакратара — Карла Шэрмана. («Литературная газета», 23.VIII.89)

ПЭН-клюб — гэта Міжнародная асацыяцыя паэтаў, драматургаў, рэдактароў, нарысістаў і раманістаў.

### ШЛЮБ БАРБАРЫ ШУСТ



У сакавіку сёлета ў Лёндане ў Канадзе дачка сп-тва Міколы й Гэлены Шустоў Барбара ўзяла шлюб з Алэнам Лёрэнсам. Урачыстасьць вянчаньня выканаў у Украінскай праваслаўнай царкве Архіепіскап БАПЦ Мікалай. На вясельлі было шмат беларускіх прыяцеляў сп. Шуста, грамадзкага працаўніка й таленавітага народнага майстра дэкарацыйнае саломкі, удзельніка шмат якіх мастацкіх выставак. Барбара занятая на сацыяльнай службе, Алэн — спэцыяліст электронікі.

### «ЗВАЖАЙ» № 3(55)

У нумары: перадрук з часапісу «Маладосьць» (№ 3) артыкулу С. Тарасава пра руйнаваньне гістарычнага Полацку; В. Сянькевіч — Матар'ялы зь гісторыі ўзброеных сілаў БНР; карэспандэнцыя «Госьць зь Вільні» (сп. Хв. Нюнька ў Канадзе); выпісы зь беларускага савецкага друку аб праблемах экалёгіі, эканомікі, адміністрацыі, нацыянальнае палітыкі; хроніка.

# МІКОЛА КУЛІКОВІЧ-ШЧАГЛОЎ

**(1897-1969)**

*(Заканчэньне; пачатак у № 358 і далейшых)*

Дзівугодны факт, што бальшыня творчае спадчыны гэтага выдатнага музыкі (у тым ліку ягоныя творы для аркестры, камэрныя, піянінныя й опэрныя) засталіся неапублікаванымі. Сотні ягоных цудоўных аранжыровак беларускіх народных песьняў для мяшанага хору — разам узятыя, бадай, найвыдатнейшае ягонае дасягненьне — ніколі ня выконваліся, ня кажучы ўжо пра выданьне, хоць Градэ добра ўсьведамляла сабе іхную вартасьць і перахоўвала іх у банкавым сэйфе.

Перагляд збору ягоных рукапісаў — як наведаньне Алядынавае пячоры, такая ў іх багатая разнастайнасьць музычных зацікаўленьняў. Ён піша музыку для песьняў у ангельскай, украінскай, польскай, нямецкай, расейскай мовах, у тым ліку колькі дасканальных мэлёдыяў на словы Пушкіна. Яму асабліва добра ўдаюцца музычныя мініятуры, у якіх беларускі матыў распрацаваны ў піянінную фантазію; сюды належыць невялікая вязанка елегантных кампазыцыяў, гэткіх як «Купалінка», «У бары сасна калыхалася», «Пайшоў Ясь наш на лужок» ды іншыя. Для хору Данскіх Казакоў свайго даўнага сябры Сяргея Жарава ён распрацаваў цудоўную вэрсію «Атаман Кудрыя й дванаццацёх разбойнікаў», а жараўцы адказалі на гэта выкананьнем (вядучы голас — бас Пётра Конюх) «Магутны Божа» Равенскага, пабеларуску.

Праваслаўны з нараджэньня, схільны да грэка-каталіцтва, Куліковіч-Шчаглоў ахвоча зрабіў ясныя аранжыроўкі лаціна-каталіцкіх гімнаў для а. Францішка Чарняўскага: «Вітай, Марыя», «Сэрца Ісуса» ды традыцыйную «О, мой Божа, веру Табе». На адзін зь менш благіх вершаў манаха Хрызастома Тарасэвіча ён напісаў прыгожую музыку — «О, Беларусь ты дарагая!» Ён зрабіў-бы ня менш і для баптыстаў, калі-б яны яго папрасілі. Бальшыню сваіх кампазыцыяў і музычных аранжыровак, асабліва ў дзялянцы народных песьняў, ён напісаў безь нікае аплаты.

Нельга не палюбіць кампазытара, які мог лёгка й спраўна пераключацца з удасканальваньня пакупэрэнаўску свае піяніннае сюіты «Беларускія мініятуры» або са сьветлых вышыняў гімну «Ты, Госпадзе, мой Збаўца» для катэдральнага хору й арганаў на сьмяшлівую «На пэрсыдзкім кірмашы» для весяльчакоў у клюбе ці на задушэўную песеньку «Абдымі, пацалуй, каханьне цудоўнае сёньня». Я шмат аддаў-бы, каб паслухаць ягоную «Кантату пра Сталіна».

У апошнім дзесяцігодзьдзі свайго жыцьця ён вярнуўся да захапленьня з часоў маладосьці — царкоўнае музыкі. Праз свайго сябру бібліёграфа Аўгена Калубовіча ён даведаўся пад канец 1950-х гадоў пра старабеларускія «Ірмалой» і «Багагласьнік», зь якіх апошні быў беспасярэдня зьвязаны з паралітургічнай і народнай музыкай. Зварот да гэтых традыцыйных крыніцаў даў-бы адказ на праблему стварэньня аднойлегага аўтэнтычнага беларускага Актаэхасу, што кампазытар спрабаваў быў зрабіць раней толькі пры дапамозе народных папевак, з рознай ступеняй удачы. З гэтага гледзішча ягоныя два артыкулы ў газэце «Бацькаўшчына» («Ці ня час закрануць пытаньне» і «Пытаньне беларускае багаслужбы», 1960 г.) становяць свайго роду маніфэст за зварот да нацыянальнае самабытнасьці ў разьвіцьці царкоўнае музыкі. У наступным годзе ён дастаў копіі «местных напеваў» з «Супрасьлеўскага ірмалою» (1598-1601) і «Жыровіцкага ірмалою» (1649): беларускі, жыровіцкі, мірскі, слуцкі, віленскі, супраскі і пазьнейшы·яблачынскі, які ён гарманізаваў зь вялікім умельствам згодна з прынцыпамі беларускага фальклёрнага аранжыраваньня. Ягоныя «Иже херувимы — Слуцкі напеў» і «Иже херувимы — Яблачынскі напеў» разам з «Ныне отпущаеши — жыровіцкі напеў» — найбольш зыркія й найцудаўнейшыя прыклады тых правільных прынцыпаў, якія ён абвясьціў у сваім «маніфэсьце». Гэтыя партытуры разам зь некаторымі ранейшымі папеўкамі ды кампазыцыямі катэдральнага стылю — славутая «Плотию уснув» і «Верую» для альта-кананархаў і хору, ягоныя «Иже херувимы № 1, 2 і 3» ды ягоная мадэрністычная «Милость мира» для вялікага хору й сапрана-солё ставяць яго, бясспрэчны — як і ягоныя опэры — у адзін рад зь вялікімі расейскімі майстрамі: Рахманінавам, Чэсноковам, Нікольскім, Шведавам ды ягонымі настаўнікамі Кастальскім і Іпалітаў-Іванавам. Падборка ягоных твораў, далёкая ад прадстаўнічай, была выдрукаваная ў зборніку «Беларускі царкоўны сьпеўнік», у складзе рэдкалегіі якога ён быў цэненым і актыўным дараднікам.

Увесну 1969 году, рыхтуючыся да адзначэньня 51-х угодкаў 25 Сакавіка, Мікола Куліковіч-Шчаглоў захварэў і памёр 31 сакавіка. Ягоная верная спадарожніца-артыстка й жонка Надзея Градэ крыху ўпарадкавала ягоныя рукапісы перад тым як сама памерла ў 1984 годзе. Свой каштоўны архіў разам з архівам свайго геніяльнага мужа яна перадала, як ён гэтага жадаў, Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане, разам з усімі неапублікаванымі творамі й рукапісамі (і ладную суму грошай), якія ейны выканавец сп. Антон Беленіс ды графік-дызайнэр і ведамы бібліёфіл Часлаў Будзька, жыхары Чыкага, апісалі і ўпарадкавалі перад адасланьнем у Лёндан.

Вялікае дасьледаваньне павінна быць праробленае яшчэ як у Савецкім Саюзе, гэтак і на Захадзе, каб належна ацаніць творчую спадчыну Міколы Куліковіча-Шчаглова, гэтага працавітага, адданага й прывабнага чалавека.

Адно можна з пэўнасьцяй сказаць: дзе-б галасы беларускіх патрыётаў ні ўздымаліся ў сяброўскіх згадках і чаркі наліваліся ў памяць адсутных сяброў, песьні, што гучаць найчасьцей з вуснаў удзельнікаў такой бяседы — гэта ўлюбёныя творы спад пяра аднаго з тых, хто так непаслабна й аддана ахвяроўваў іх табе — «кожны дзень, кожны час, Беларусь».

Лёндан, 10 сакавіка 1989 г.

**Гай Пікарда**

### ПАДЗЯКА

Усім нашым прыяцелям, хто выказаў нам асабіста спачуваньні з прычыны сьмерці нашай дарагой маці сьв. пам. Гэлены Зданковіч, а таксама сябром у ЗША — др. Я. Запрудніку, спадарствам Францішу й Веры Бартулём, Уладзімеру й Аліне Курылам, якія заміж кветак на магілц склалі ахвяры на «Беларуса» — нашая найшчырэйшая падзяка.

**Алесь і Сарафіна**

### У ГУШЧАРАХ

сл. Н. Арсеньневай — муз М. Куліковіча




У гушчарах, затканых імглою,
шэрым змрокам, на золку, ў зару
ахвяруем Табе мы сабою
кожны дзень, кожны час, Беларусь.

І няма ў сэрцах жаху ні жалю,
мы адвагай змагарнай гарым:
ні чужыя варожыя сілы,
але Ты нас вядзеш да зары.

Хмараў дым над галовамі тае,
вецер дыхае мятай, быльлём.
Беларусь, Беларусь залатая,
за Цябе, за Цябе мы ідзём!

*(Ноты са сьпеўніка «Беларусь мая . . .». Беласток, выд. Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў, 1989. Тэкст із зборніка паэзіі Натальлі Арсеньневай, выд. БІНіМ, 1976).*

## СЬВ. † ПАМ.
## КСЕНЯ ТУМАШ

адыйшла на вечны супачын у Нью-Ёрку 25 верасьня 1989 году, аб чым з глыбокім сумам паведамляюць і сям'і др. Вітаўта Тумаша найшчырэйшае спачуваньне выказваюць

**Сябры ўправаў Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і рэдкалегіі газэты «Беларус».**

## СЬВ. † ПАМ.
## ВАСІЛЬ ПУНТУС

народжаны 29 сакавіка 1920 году ў в. Асташкавічы на Гомельшчыне, беларускі патрыёт і добры чалавек, спонсар майго прыезду ў ЗША, перадчасна адыйшоў з гэтага сьвету 7 ліпеня 1989 г. у гор. Сыракузах у штаце Індыяна, з прычыны чаго выказваю найсардэчнейшыя спачуваньні сям'і нябожчыка і ягоным шматлікім прыяцелям.

**Мікалай Клімюк**

*З жыцьця ў Адэляйдзе (Аўстралія)*

### ХРАМАВОЕ СЬВЯТА

Парафія Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла БАПЦ у нядзелю 16 ліпеня ўрачыста адзначыла пры добрай пагодзе сьвята сваіх патронаў. Божую службу адправілі супольна настаяцель а. Міхась Бурнос з а. Аляксандрам Кулакоўскім з мэльбурнскае царквы Сьв. Віленскіх мучанікаў Антона, Яна й Еўстафія БАПЦ. У ўрачыстасьці ўзяў таксама ўдзел пратаярэй Пётр Касацкі, настаяцель мясцовага прыходу Сьв. Апостала Міхаіла Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Вельмі прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам Уладзімера Калесьніковіча.

Пасьля малебну а. Міхась запрасіў усіх на супольны абед, на якім прамаўлялі айцы А. Кулакоўскі, М. Бурнос, і П. Касацкі, а сп. Віктар Зелянеўскі разьвесяліў прысутных гумарыстычнымі апавяданьнямі.

**У. Акавіты**

### КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНЫЯ ВЕЧАРЫ

Управа адзьдзелу БАЗА запрашае ўсіх на культурна-асьветныя зборкі, што будуць адбывацца кожнае першае пятніцы кастрычніка, лістапада й сьнежня ў залі пад царквою Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку (9 Рывэр Роўд) ад 5-й да 8-й гадзіны вечара. У праграме: гутаркі й чытаньні, жывая газэта, актуальныя паведамленьні, сьпевы, гульні, буфэт.

### НА БЕЛАРУСКІ КРЫЖ

| | | |
|---|---|---|
| Беленіс Людвіка | кан.дал. | 118.25 |
| Пануцевіч Ірэна | | 118.25 |
| Гутырчык Сяргей | | 29.43 |
| Усяго | | 265.93 |

### НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

| | | |
|---|---|---|
| др. Б. Рагуля | ам.дал. | 176 |
| др. Л. Трусэвіч | | 75 |
| М. Скабей | | 250 |
| А. Слонімскі | | 100 |
| Згурт. Беларусаў у Зах. Аўстраліі | | 120 |
| Усяго | | 721 |

*Прапануем набыць*

### ПРА МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Напярэймы 100-годзьдзю ад нараджэньня клясыка беларускае літаратуры Максіма Багдановіча, што споўніцца ў 1991 годзе, выйшла ў Менску біяграфічна-літаратурнае дасьледаваньне Леаніда Зубарава «Максім Багдановіч». У кнізе, ілюстраванай сямейнымі фатаграфіямі й здымкамі гістарычных багдановічаўскіх мясьцінаў, расказваецца пра жыцьцё сям'і Багдановічаў, Максімаву навуку й паэзію ды сям'ю расейскага клясыка Максіма Горкага, які быў шваграм бацькі беларускага паэта, Адама Багдановіча.

Прыгожа аформленую кніжку Л. Зубарава (364 бб.) — першае выданьне ў БССР, ажыцьцёўленае за кошт аўтара — можна набыць у рэдакцыі «Беларуса». Цана: 10 даляраў.

